# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

**пэдагогічны штомесячнік.**

№ 3 (1). | Рыга, студзень 1927 году. | Год II.






**Гурток беларускага студэнцтва Мастацкае Акадэміі і Беларускіх Настаўніцкіх Курсаў у Рызе.**

Стаяць з гары, зьлева ўправа: С. Карнавухава, А. Лейтан, В. Казлоўская, М. Калінін. Сядзяць у 2-ім радзе зьлева ўправа: В. Гаўбштэйн, В. Цішкевіч, Я. Воркуль, А. Радзевіч, А. Антаневіч, У. Гусарэвіч, Я. Кудраўцаў і З. Васілеўская. Сядзяць у 1-ым радзе зьлева ўправа: В. Гвозд, М. Габран, Л. Казлоўская, М. Вайноўская, В. Мадзалеўская і П. Міраповіч.

## Асьветныя патрэбы беларусаў у Рызе.

Наша грамадзянства ўжо ведае, што барацьба за 2-ю беларускую школу скончылася перамогаю беларусаў: 2-я беларуская пачатковая школа, адчыненая ў восені 1925 году і працаваўшая ўвесь 1925-26 навучальны год як прыватная школа, цяперака, з пачатку 1926-27 навучальнага году, прынята Рыскаю Школьнаю Управай на ўтрыманьне гораду і зьяўляецца ўжо не прыватнаю, а мястоваю.

Гэткім чынам у Рызе істнуе ўжо дзьве мястовых беларускіх 6-ці клясовых пачатковых школы, адна на Маскоўскім Форштаце, а другая на Чырвонай Дзьвіне.

Але стварэньнем і працаю гэтых дзьвюх беларускіх школ ня вычэрпаны яшчэ ўсе асьветныя патрэбы беларускага жыхарства гораду Рыгі.

Па-перш, беларуская моладзь, скончыўшы 6-ці клясовыя пачатковыя школы, ня мае магчымасьці атрымаць далейшую сярэднюю адукацыю, бо ў Рызе няма сваей беларускай сярэдняй школы. Ісьці ў гімназіі іншых нацыянальнасьцяў не выпадае, а ехаць вучыцца ў Дзьвінскую гімназію няма сродкаў

бо рыскія беларусы, у пераважнай сваей большасьці, зьяўляюцца чорнарабочымі і незаможнымі мастэравымі, якіх выкінула сюды ў Рыгу беззямельле латгальскае беларускае вёскі ды безрабоцьце латгальскіх гарадоў. Ужо ў мінулыя два гады, улетку 1925 і 1926 гадоў, рабіліся спробы і захады, каб адчыніць у Рызе беларускую гімназію, але захады гэтыя, пры тагочасным кіраўніку Беларускага Аддзелу, гр. Заліце, ніякага пасьпеху ня мелі. Дык у бягучым 1927 годзе беларусы Рыгі канешна павінны атрымаць у Рызе сваю сярэднюю школу.

Другая вельмі важная асьветная патрэба беларусаў у Рызе гэта — пастаноўка на моцны грунт пазашкольнае асьветы беларускіх працоўных і беларускае працоўнае моладзі, якія прыехалі і што-год болей прыязджаюць з Латгаліі і Ілукшчыны ў Рыгу, шукаючы тутака працы. Гэтыя выхадцы малазямельнае беларускае вёскі, уцёкшыя ад беззямельля і галаданьня сюды ў Рыгу, мала мелі часу і магчымасьці вучыцца на вёсцы. Хто пахадзіў зіму, хто дзьве, а хто і зусім ня змог адведваць школу. Дык вось, тутака ў Рызе, тым з іх, што ўжо так-сяк зачапіліся за працу, трэба даць магчымасьць хаця-ж бы цяперака крыху дапоўніць свае веды і набрацца новых. Для гэтае беларускае моладзі і беларускіх працоўных абавязкова патрэбна сталае істнаваньне ў Рызе беларускае вячэрняе дадатковае школы. І гэткую школу павінен утрымоўваць горад за свой кошт. Першыя крокі да ўмацаваньня гэткае школы ўжо зроблены: зарэгістраваны вучні, якіх аказалася шмат, знойдзецца памешканьне, вядуцца з запісаўшыміся папярэднія заняткі, каб падрыхтаваць іх да сыстэматычнага слуханьня курсу школы. Цікавасьць да школы сярод працоўных вялікая. Зьвярнуліся беларусы да Школьнае Управы г. Рыгі, каб яна падтрымала пачынаньне і ўзяла гэтую школу на свой кошт, але ў гэтай Управе, як гэта і было з 2-й беларускай пачатковай школай, зноў пачынаецца цеганіна, і зноў відаць, беларускім настаўнікам, якія згадзіліся працаваць у гэтай дадатковай школе, прыдзецца зрабіць школу прыватнаю і цэлы год працаваць дарма, каб давесьці жыцьцёвую патрэбу гэтае школы і гэтым змусіць Рыскую мястовую Школьную Управу хаця-ж-бы ў наступным 1927-28 годзе ўзяць гэтую школу на ўтрыманьне гораду.

Трэцяя асьветная патрэба беларусаў у Рызе — адчыненьне свайго сталага тэатру ў Рызе, але аб гэтым пагаворымо асобна.

**К. Езавітаў.**

## Дзьвінская Беларуская Гімназія зьбірае сродкі на дапамогу бяднейшым вучням

Дзьвінская беларуская гімназія добрая тым, што яна дае магчымасьць вучыцца ня толькі дзяцям заможных бацькоў, але і дзяцям малазямельнага і беззямельнага беларускага сялянства, ды нават дзяцям беларускіх працоўнікаў.

Калі-б не была адчынена беларуская гімназія, дык шмат хто з тае беднаты, што цяперака ўжо скончыла гімназію і мае пасаду, або далей вучыцца на вучыцельскіх курсах і ў вышэйшай школе, ніколі ў жыцьцю ня змог бы атрымаць сярэдняе асьветы.

Гімназія дужа многіх звальняе ад платы; для прыезжых з вёскі мае інтэрнат, а шмат каго, нават, і корміць і поіць.

На ўсё гэта патрэбны вялікія грошы, а таму гімназія робіць ве-

чарыны, латарэі і сборы ахвяраў, дзе толькі магчыма і калі толькі магчыма.

У суботу 30 кастрычніка адбылася вечарына ў Люцыну, 4 лістапада разыграна рэчавая латарэя ў Ляўдарах, 26 сьнежаня вучні гімназіі зладзілі беларускі спэктакль у м. Пасіне, Люцынскага павету, 6 студзеня ставілі спэктакль у Прыдруйшчыне Дзьвінскага павету, а 22 студзеня гімназія ставіць вялікую вечарыну-спэктакль у Дзьвінскім мястовым клюбе.

Кожды сьвядомы беларус усімі сваімі сіламі павінен дапамагаць гэтай працы. Кождая тысяча рублёў адчыняе магчымасьць падтрымаць незаможнага вучня, дапамагчы яму скончыць гімназію і выбіцца ў-людзі. Апрача таго, вельмі важная гэта праца яшчэ і тым, што яна нясе вестку аб беларусах ва ўсе куткі, дзе жыве беларуская меншасьць, і гэтым дапамагае пашырэньню ў Латвіі беларускае нацыянальнае сьвядомасьці.

**Кастусёнак.**



**Зьезд прадстаўнікоў беларускіх арганізацый ў Латвіі,**
што адбыўся 19—20 чэрвеня 1926 году ў Рызе і выставіў на пасаду кіраўніка Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы ў Латвіі кандыдатуру гр. У. Пігулеўскага.

На фатаграфіі зьлева ўправа сідзяць: старшыня т-ва „Беларуская Хата“ — **М. Дзямідаў**, старшыня „Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў у Латвіі“ — **К. Езавітаў**, кандыдат у кіраўнікі Беларускага Аддзелу, які цяперака і зацьверджаны Ўрадам — **У. Пігулеўскі**, прадстаўнік Дзьвінскага Аддзелу „Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў“ і кіраўнік Дзьвінскае беларускае гімназіі — **С. Сахараў**, старшыня т-ва „Рунь“ — **Я. Шчорс**; вышэй стаяць прадстаўнікі: ад беларускага настаўніцтва з Люцыншчыны — **С. Маціеўскі**, старшыня „Беларускага Цэнтральнага Пазычкова-Ашчаднага Т-ва“ — **Я. Тэтар**, прадстаўнік беларускага вучыцельства гораду Рыгі — **Г. Плыгаўка**, дэлегат Дзьвінскага Аддзелу т-ва „Беларуская Хата“ — **Ф. Астроўскі**, прадстаўнік Дзьвінскага Аддзелу т-ва „Баларускіх вучыцелёў у Латвіі“ — **А. Махноўскі**, сябра Цэнтральнага Праўленьня т-ва „Беларускіх вучыцелёў у Латвіі“ — **П. Жэрдзі** і настаўнік Рыскай беларускай пачатковай школы — **С. Сіцько.**

# Першая Беларуская Акадэмічная Канфэрэнцыя.

## 14 — 20 лістападу 1926 году, Менск.




**Адчыненьне Акадэмічнае Канфэрэнцыі 14 лістападу 1926 г.**
Старшыня Канфэрэнцыі, праф. У. Ігнатоўскі, чытае прывітаньне ад імя Інстытута Беларускае Культуры.



**Сябры Акадэмічнае Канфэрэнцыі за працаю.**
На першым пляне ў цэнтру—праф. Голэмбэк (піша), управа ад яго (другі)—праф. Фасмэр, трэці—праф. Растаргуеў, пры канцы стала—дацэнт Блэсэ, а за ім (ўгары, ўправа) відаць галава Я. Райніса-Плекшана.

# МЭТОДОЛЁГІЯ І ПРАКТЫКА.

## Праца Станькаускай школы 4-х годкі за 1-е паугодзьдзе 1925-26 навуч. г.

(Працяг).

### 2-я кляса.

**Трэці комплекс. Васеньняя праца ў весцы.**

Тэмы:

1. Гароды нашых бацькоў.
2. Поле нашае вёсцы і што на ім насеяна.
3. Як палепшыць глебу.
4. Сад і ахова фруктаў.
5. Значэньне навукі для працы.

Па 1, 2 і 4 тэме былі зроблены экскурсіі: 1) на гароды сялян і сав. гаспадаркі і зроблена параўнаньне з боку прадукцыйнасьці розных гародаў сялян і сав. гаспадаркі; 2) у сав. гаспадарку для азнаямленьня з сельска-гаспадарчымі прыладамі і параўнаньня з тымі, якія ўжываюцца сялянамі і якія ўжываліся раней; 3) у сады і на гарод сав. гаспадаркі для назіраньняў за пасьпяваньнем гароднiны і позьніх фруктаў. Пры гэтым адбываліся гутаркі аб вялікім значэньні навукі і тэхнікі для земляробства. Рабіліся досьледы над прарастаньнем насеньня жыта; назіралася разьвіцьцё руні да выпаду сьнегу, запісы і замалёўваньне; назіраньні за адлётам птушак і лістападам.

Лічэньне будавалася на падліку фруктаў, на падліку ўраджаю ў полі, садзе, гародзе і іншых. У сувязі з тлумачэньнем правілаў правапісу рабілася агульнае апісаньне экскурсій, назіраньняў, досьледаў. Самастойныя індывідуальныя пісьмовыя працы заключаліся ў апісаньні ўражаньняў на экскурсіях. Комплекс распрацоўваўся тры тыдні.

**Чацьвёрты комплекс. Ахова здароўя.**

Тэмы:

1. Першыя веды аб чалавечым целе (знадворнае апісаньне цела: органы знадворныя і ўнутраныя).
4. Гігіэна цела.
3. Гігіэна памяшканьня.
7. Роля сьвятла і паветра для чалавека, жывёл і расьлін.
5. Ахова здароўя.
6. Дзіцячыя хваробы і як іх лячыць.
7. Санітарнае становішча вёскі і мэдыцынская дапамога (мэдпункт, вэтпункт, бальніца).

Пры распрацоўцы гэтага комплексу пераважна ўжываўся наглядны мэтад выкладаньня пры дапамозе анатамічных малюнкаў. Была зроблена экскурсія на мэдпункт, дзе дзеці былі абгледжаны фэльчарам.

Лічэньне будавалася на вазе і ўзросту вучняў (дыяграмы). Вяліся пісьмовыя працы і адпаведна тэмам комплексу граматычныя практыкаваньні. Артыкуламі для чытаньня былі: Касьцяк чалавека, Трываласьць касьцяка, Цела чалавека, Паветра, Без яды, Ад чаго бываюць розныя хваробы і як цела чалавека з імі змагаецца, Цанеце сонечныя дні, Як трэба мыцца, і іншыя з падручнікаў: „Роднае Слова“, „Чырвоная Беларусь“ і з вучнёўскае бібліятэчкі.

Вынікам распрацоўкі было тое, што вучні зразумелі неабходнасьць і карысьць пасільнае фізычнае і разумнае працы, і фізкультуры; зразумелі значэньне сьвятла, паветра і неабходнасьць гігіэны для здароўя.

### Пяты комплекс. Кастрычнікаўская рэвалюцыя.

Тэмы яго:

1. Як нам жылося пры царскай уладзе.
2. Як нам жылося пры паляках.
3. Чаго рабочыя і сяляне дабіліся ў Кастрычнікаўскую рэвалюцыю.
4. Што нам трэба рабіць, каб назаўсёды замацаваць дасягненьні Кастрычнікаўскае рэвалюцыі.
5. Правадыры рэвалюцыі.

Распрацоўка комплексу адбывалася на працягу 3-х тыдняў.

Рыхтуючыся да сьвята, дзеці выпаўнялі наступныя работы; зьбіралі зеляніну і прыбіралі клясу, малявалі плякаты, завучвалі рэвалюцыйныя песьні і вершы. Адначасна вяліся гутаркі на вышэйадзначаныя тэмы і чыталіся артыкулы: „Павіншаваньне“, „За прыгонам“, „Становішча рабочых і сялян пры капіталістых і панох“ і іншыя. У дзень сьвята дзеці прымалі ўдзел у агульным сьвяткаваньні. Пасьля гэтага адбылася гутарка аб уражаньнях, якія дзеці атрымалі ў часе сьвяткаваньня і агульнае апісаньне. Пры распрацоўцы гэтага комплексу адчуваўся недахоп матар‘ялаў да чытаньня і сродкаў на дэкарацыйныя работы.

### Шосты комплекс. Падрыхтоўка да зімы.

Тэмы:

1. Як падрыхтоўваюцца да зімы людзі.
2. Як рыхтуюцца дрэвы (лістапад, пупышкі).
3. Як рыхтуюцца птушкі.
4. Як рыхтуюцца розныя жывёлы і казюлькі.

Пераважныя мэтады працы: экскурсійны і наглядны. Матар‘ял для распрацоўкі галоўным чынам здабываўся на экскурсіях. Пісаньне будавалася на тых гутарках і назіраньнях, якія вяліся ў часе экскурсій. Лічэньне будавалася на каштарысе вопраткі, абутку; на ліку матар‘ялаў, якія патрэбны для вопраткі і абутку; на вылічэньні выдаткаў на апал; на азнаямленьні з градусьнікам; на каштарысе харчу для свойскае жывёлы. Артыкулы да чытаньня былі: Прырода гатуецца да сну; Дождж, раса, шэрань, сьнег; Адлёт птушак; На зімоўе; Што кажух, то ня вата, і іншыя. Таксама чыталіся і завучваліся адпаведныя вершы. На распрацоўку комплексу патрачана 18 дзён.

### Сёмы комплекс. Зіма.

Тэмы:

1. Наступленьне зімы.
2. Як праводзяць зіму свойскія і дзікія жывёлы.
3. Умовы жыцьця птушак.
4. Праца сялян узімку.

Па першай тэме была зроблена экскурсія з запісамі назіраньняў і агульнае апісаньне прыходу зімы. Па 3-й тэме выпаўнена агульная пісьмовая праца: „Спажыва для зімовых птушак“. На ўсе тэмы комплексу праведзен цэлы шэраг гутарак і даступных назіраньняў як за працай сялян, так і за жыцьцём як свойскае, так і дзікае жывёлы і птушак. Прачытаны артыкулы: Наступленьне зімы; Мяцеліца; Зімовы госьць; Мядзьведзь; Воўчае жыцьцё; Хатняя праца сялян; Ад чаго залежаць поры году, а таксама прачытваліся і вывучаліся адпаведныя вершы. Лічэньне будавалася на, падліку сродкаў і матар‘ялаў на асьвятленьне ў доўгія зімовыя вечары; на каштарысе корму на ўтрыманьне жывёлы; на падліку хатніх вырабаў (ніткі, тканіна, бандарства).

На распрацоўку гэтага матар‘ялу патрачана 10 дзён.

**Восьмы комплекс: Уладзімір Ільліч Ленін.**

Тэмы:

1 Жыцьцёпісь Ул. Іл. Леніна.

2. Ленін, як барацьбіт за вызваленьне рабочых і сялян ад уціску буржуазеі і паноў.

3. Ленін і дзеці.

4. Ленін і камуністычная партыя.

4. Ленін і камсамол.

5. Ленін і народная асьвета.

Пераважнымі мэтадамі выкладаньня былі — лекцыйны і працоўны.

## III-я кляса.

**Склад клясы**: хлопчыкаў 16; дзяўчынак 15; узрост ад 9—13 гадоў: піянэраў 13, камсамольцаў — 1.

У кастрычніку заняткі вяліся па прадметнай сыстэме з прычыны таго, што вучні ня ўсе адразу зьявіліся ў школу і грунтоўна распачаць працу было немагчыма. Гэты час быў скарыстаны на гутаркі і паўтарэньне ведаў, здабытых у мінулым годзе.

**Першы комплекс: Кастрычнікаўская рэвалюцыя.**

Папершае, вялася праца падрыхтоўкі да гэтага сьвята: прыбіраньне клясы, пісаньне лёзунгаў, падрыхтоўка дэклямацыі, гутаркі; была зроблена экскурсія ў лес за зялёнінай і скарыстана, апрача гэтага, як для назіраньняў за васеньнім заміраньнем прыроды, рыхтуючайся к зіме (рэчка, сенажаць, поле, лес), так і для разгледжаньня акопаў па беразе нашае рэчкі, помнікаў недалёкага мінулага—вайны з палякамі на Беларусі. Рэчка таксама праз нейкі час пасьля заміраньня служыла мяжой нэйтральнае зоны паміж намі і палякамі. Вяліся гутаркі аб значэньні Кастрычнікаўскае рэвалюцыі і яе заваёвах, пры чым адзначаны заваёвы Кастрычніка на мейсцы ў тым, што школа і іншыя ўстановы, дзякуючы Кастрычнікаўскай рэвалюцыі, у сучасны момант займаюць лепшыя панскія будынкі і працуюць на роднай, а ня панскай мове, адзначана змаганьне буржуазеі з рабочымі і сялянамі, супярэчнасьць іх інтарэсаў і роля Чырвонай арміі, героя і абаронцы заваёваў Кастрычніка; зроблен у раёне школы падлік ахвяр гэтай вайны і могілак чырвонаармейцаў, загінуўшых у барацьбе з панамі за інтарэсы працоўных.

Лічэньне галоўным чынам бедавалася на падліку рабункаў белапалякоў у часе вайны на Беларусі. Матар'ял да пісаньня быў наступны: запісы ўражаньняў, гутарак, апісаньне экскурсіі і агульнаграмадзянскага сьвяткаваньня, у якім прыймала ўдзел і школа.

У дзень сьвяткаваньня ў школе адбылася школьная раніца, прысьвечаная Кастрычнікаўскай рэвалюцыі.

Уся праца па правядзеньню комплексу зафіксавана ў лёзунгах, плякатах, малюнках і апісаньнем як агульнага сьвяткаваньня, так і ў школе.

Недахопамі пры правядзеньні комплексу былі: 1) адсутнасьць неабходных матар'ялаў і сродкаў як на прыбіраньне клясы, так і на маляваньне лёзунгаў і плякатаў; 2) адсутнасьць адпаведнай літаратуры ў вучнёўскай бібліятэцы; 3) адсутнасьць у падручніках патрэбнага ліку адпаведных артыкулаў да чытаньня, (напрыкл. у „Родным Слове“, якім у той час прыходзілася карыстацца, матар'ялу зусім няма).

Комплекс распрацоўваўся на працягу тыдню.

**Другі комплекс: Чалавек.**

Тэмы яго:

1. Праца мужчын, кабет і дзяцей.
2. Пабудова чалавечага цела (касьцяк, мускулы, і інш. органы).

3. Неабходнасьць працы і харчаваньня.

4. Праца і адпачынак.

5. Заразьлівыя хваробы і барацьба з імі.

6. Шкоднасьць п'янства і курэньня.

7. Ахова працы і здароўя.

Пры распрацоўцы комплексу „Чалавек“, які вельмі цікавіў вучняў, прыйшлося карыстацца тымі, што меліся ў школе, анатамічнымі табліцамі, па якіх досыць лёгка было знаёміць клясу з пабудовай цела чалавека і касьцяка. Усе неабходныя веды передаваліся ў форме гутарак, лекцый і фіксаваліся запісамі ў сшыткі, а таксама замалёўваньнем паасобных органаў, дыяграмамі, плякатамі. У часе пісаньня добра ўвязвалася выкладаньне граматычных ведаў і выпрацоўвалася здольнасьць выдзеліць галоўнае з гутаркі і будаваць плян зьместу. На працягу комплексу пройдзена імя назоўнае. Самастойныя пісьмовыя працы былі наступныя: 1) „Праца мужчын, кабет і дзяцей на працягу году“, 2) „Дзень вясковага школьніка“ і 3) „Роля сьвятла і паветра для здароўя“.

Лічэньне будавалася на матар'яле, які лёгка выплываў амаль, што з кожнае тэмы, так, напрыклад, з тэмы „Заразьлівыя хваробы і барацьба з імі“ — вылічэньне аб'ёму паветра ў клясе на кожнага вучня і ў хатах вучняў на кожнага сябра сям'і, кубічныя меркі (даўнейшыя і мэтрычныя), аб'ём грудзей, вылічэньне плошчаў вакон і сьвятла на кожнага вучня і г. д. Наагул на працягу комплексу даволі хапала матар'ялу, меўшага непасрэдную і цесную сувязь з комплексам для прахаджэньня найменных лікаў.

Матар'ялам да чытаньня служылі артыкулы: „Паветра“, „Шкоднае паветра“, „Праваднікі цяпла“, „Сьвятло“, (з падручніка „Роднае Слова“ ч. II.), „Пляменьні і расы“ (Грамыка), „Як ратавацца ад заразы“, „Трахома і сьлепата“, „Страшны вораг“ (докт. Былінскі), „Як Янка захварэў на каросту“, „Як Янкаў дзядзька захварэў на тыфус“, „Цікавая хатка“ і іншыя.

Вынікі гэтага комплексу зразу сталі адчувацца ў тым, што клясском і санітарная камісія сталі пільна сачыць за чыстатой і праветрываньнем клясы, стрыжкай валасоў, чыстатой цела і адзежы, а таксама і ўсе вучні ў гэтых адносінах не патрабавалі напамінаньняў. Вучні зрабілі плявальніцы, сплялі маты для выціраньня ног, напісалі і расклеілі папярэджваючыя плякаты, зразумелі неабходнасьць разумнае працы і адпачынку, карыснасьць фізкультуры, шкоды ад няправільнай постаці.

У канцы комплексу зроблен быў абмер аб'ёму грудзей вучняў усяе клясы з мэтай праканацца, на колькі да вясны раздадуцца грудзі ў вучняў аднолькавага ўзросту і выяўленьня прычын розьніцы. Акрамя таго, быў запрошан фэльчар, які зрабіў мэдычны абгляд здароўя вучняў і даў свае парады.

Адсутнасьць бэрталетавай солі, фосфару, салянога квасу і іншых прадметаў не дала магчымасьці зрабіць сталых досьледаў над складам паветра, хоць усёж-ткі найпрасьцейшыя досьледы, якія можна было зробіць без названых прадметаў, былі зроблены.

Часткова перашкодай у працы было тое, што падручнік „Чырвоная Беларусь“, у якім матар'ял да комплексу „Чалавек“ падабраны досыць добра, у той час ня быў яшчэ атрыманы.

На распрацоўку комплексу патрачаны 1 месяц.

(Працяг будзе).

# Статут „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“.

## А. Мэты таварыства.

§ 1.

Таварыства Беларускіх Вучыцялёў мае мэтай: аб'яднаць усё беларускае вучыцельства, дбаць аб палепшаньню матар'яльнага, культурнага і юрыдычнага стану яго сяброў, працаваць над педагагічнымі і навуковымі пытаньнямі, рупіцца аб разьвіцьцю беларускіх школ, а таксама пашыраць педагагічную і агульна - прасьветную веду сярод беларусаў.

§ 2.

Дзеля дасягненьня мэтаў, азначаных у § 1, Таварыства мае права:

а) ладзіць для сваіх сяброў кангрэсы, педагагічныя і агульна-прасьветныя курсы, лекцыі, рэфэраты, экскурсіі, адчыняць бібліатэкі, чытальні, на падставе асобнага статуту — касы ўзаемнае дапамогі, бюро дзеля прыдбаньня працы сябром, ладзіць канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, педагагічныя выстаўкі, выдаваць падручнікі, кнігі, педагагічныя часопісі і іншыя перыядычныя і неперыядычныя выданьні;

б) засноўваць асобныя камісіі і спэцыяльныя сэкцыі для выпрацоўкі педагагічных, культурна-прасьветных, гаспадарчых і школьна-адміністратыўных пытаньняў, якія маюць інтарэс для школы;

в) уваходзіць у зносіны з цэнтральнымі школьнымі, адміністратыўнымі і іншымі дзяржаўнымі ўстановамі, а таксама і з органамі мяйсцовых самаўрадаў па ўсім тым справам, якія маюць датычэньне да беларускае школы ў Латвіі;

г) адбудоўваць для беларускага жыхарства ў Латвіі ясьлі, дзяцінныя сады, дзяцінныя пляцоўкі для гульняў, рожнага тыпу вучэбныя ўстановы, курсы, лекцыі, дыспуты, чытаньні, рожныя прасьветныя забавы, адчыняць бібліатэкі, чытальні;

д) уваходзіць у зносіны з беларускімі і іншымі таварыствамі і грамадзкімі арганізацыямі ў межах Латвіі.

§ 3.

Таварыства мае пячатку з яго назовай.

## Б. Склад Таварыства, парадак прыняцьця і выключэньня сяброу.

§ 4.

Сябрамі таварыства могуць быць:

1) Паадзінковыя асобы беларускае нацыянальнасьці, пражываючыя ў Латвіі.

2) Асобы, якія цікавюцца дзеяльнасьцю таварыства і якія могуць рабіць істотную дапамогу ў справе разьвіцьця культурнага жыцьця сярод беларускага жыхарства ў Латвіі.

§ 5.

Асобы, жадаючыя ўвайсьці ў сябры таварыства, прыймаюцца Праўленьнем на падставе рэкамэндацыі 2 сяброў таварыства.

§ 6.

Пры ўступленьні ў таварыства кожная асоба плоціць уступны ўзнос і апрача таго штогодна не

пазьней як да 1 сакавіка сяброўскі ўзнос, памер якога штогодна прызначае Агульны Сход таварыства.

**Увага 1:** Самахоць выступіўшым сябром, ці выключаным, уступныя ўзносы назад не зьвяртаюцца.

**Увага 2:** Сябры, якія не заплацілі свае сяброўскія ўзносы да 1 сакавіка, лічуцца выступіўшымі, і калі яны зноў уступаюць у сябры таварыства, дык плоцюць уступны ўзнос.

§ 7,

Член таварыства можа самахоць выступіць з таварыства, паведамляючы аб тым Праўленьне пісьменнай заявай.

§ 8.

Член таварыства, які не заўважае на законныя вымаганьні таварыства, ці шкодзіць інтарэсам і мэтам таварыства, можа быць выключаны з таварыства на падставе пастановы Агульнага Сходу праз зачыненае галасаваньне, пасьля праслуханьня яго паказаньняў, калі ён жадае гэткія даць.

**Увага:** Член таварыства, які выключаны на падставе гэтага пункту, можа быць прыняты ў таварыства толькі на падставе пастановы Агульнага Сходу таварыства.

## В. Сродкі таварыства.

§ 9.

Сродкі таварыства складаюцца:

а) з сяброўскіх уступных і штогодных узносаў,

б) з прыбытку таварыства ад яго пачынаньняў,

в) з дабрахотных ахвяраваньняў, субсыдыяў і пакінутых па тэстамэнту сумаў,

г) з працэнтаў па належачаму таварыству капіталу,

д) з іншых непрадугледжаных даходаў.

## Г. Аддзелы таварыства.

§ 10.

Асобы, памянутыя ў § 4 і жывучыя ў Латвіі, але за ваколіцамі Рыгі, могуць арганізоўваць Аддзелы таварыства, дзейнасьць якіх урэгулёўваецца паводле гэтых статутаў.

§ 11.

Аддзелы таварыства могуць быць арганізаваны толькі ў тым выпадку, калі лік сяброў ня менш за 5.

§ 12.

Кожды Аддзел таварыства абірае сваё праўленьне на сходзе сяброў Аддзелу на адзін год, па аднаму члену праўленьня на 5 сяброў, пры чым, лік сяброў Праўленьня ня можа быць больш за 3.

§ 13.

Рэгістрацыю адчыненых Аддзелаў таварыства ў Вакружным Судзе праводзіць Праўленьне таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

## Д. Кіраваньне і арганізацыя спраў таварыства.

§ 14.

Справамі таварыства кіруюць: 1) Агульныя сходы, 2) Праўленьне таварыства і 3) Рэвізыйная камісія.

## Е. Агульныя сходы сяброу Таварыства.

§ 15.

Агульныя сходы сяброў таварыства бываюць звычайныя і надзвычайныя. Першыя склікае Праўленьне ня менш разу ў год, а другія склікаюцца па поглядах праўленьня, ці на падставе пісьменнае заявы Праўленьню ад Рэвізыйнае камісіі, ці-ж ня менш як ад 20 сяброў таварыства.

§ 16.

Праўленьне паведамляе сяброў аб часе склікаyньня, мейсцу, дню і парадку дня павесткамі найменш за тыдзень.

§ 17.

Агульны сход лічыцца адбыўшымся, калі на яго зьявілася ня менш як $^{1}/_{10}$ ад усіх, стала пражываючых у Латвіі, сяброў. Пытаньне аб выключэньню сябры, зьменах і папаўненьнях статуту і ліквідацыі таварыства вырашаюцца большасьцю галасоў $^{2}/_{3}$ зьявіўшыхся на Агульны Сход сяброў.

§ 18.

На выпадак, калі ў дзень, прызначаны для скліканьня Агульнага Сходу, не зьяўляецца азначаная ў § 17 лічба членаў, дык не пазьней за два тыдні склікаецца другі Агульны сход, які мае права вырашаць пры кождым ліку зьявіўшыхся сяброў, аб чым Праўленьне паведамляе сяброў у тэй жа павестцы на азначаны Агульны сход. Паўторны Агульны сход вырашае і абгаварывае толькі тыя пытаньні, якія мелі быць вырашаны на неадбыўшымся першым Агульным Сходзе.

§ 19.

Агульны сход мае права:

а) праглядаць і сьцьвярджаць плян дзейнасьці, прыходны і расходны буджэты,

б) абіраць членаў Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі,

в) праглядаць і сьцьвярджаць справаздачы Праўленьня,

г) вырашаць паданыя Агульнаму сходу скаргі на Праўленьне і Рэвізыйную камісію,

д) адсоўваць членаў Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу тэрміну, на які яны абраны,

е) прызначаць узнагараджэньне членам Праўленьня,

ж) выключаць сяброў таварыства,

з) зьмяняць і папаўняць статут,

і) вырашаць пытаньне аб ліквідацыі працы таварыства,

к) вырашаць іншыя пытаньні, маючыя датычэньне да памянутых статутаў і правіл Агульнага Сходу.

§ 20.

Агульны сход выбірае са свайго складу старшыню, які не ўваходзіць у склад Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі, а таксама і сэкратара для вядзеньня пратаколу. Агульны сход адчыняе старшыня ці яго намесьнік.

§ 21.

Справы, якія вырашаюцца на Агульным сходзе, падаюцца Сходу не інакш, як праз Праўленьне, дзеля чаго сябрам таварыства, якія жадаюць унясьці якое небудзь пытаньне на абгаварываньне Агульнаму сходу, належыць пісьменна зьвяртацца аб гэтым да Праўленьня не пазьней як за 10 дзён да скліканьня Агульнага сходу.

§ 22.

Кожны сябра таварыства на Агульным сходзе мае права толькі аднаго голасу, пры чым ён ня можа аддаць права голасу іншай асобе, а павінны прыймаць удзел у галасаваньні персанальна.

§ 23.

Пытаньні Агульны сход вырашае простай большасьцю галасоў прысутных сяброў. Пытаньні аб выключэньню сяброў, зьменах і папаўненьнях статуту, адсоўваньні членаў Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, вырашаюцца большасьцю $^{2}/_{3}$ галасоў прысутных сяброў. Калі галасы дзеляцца на роўныя часткі ў пытаньнях, якія вырашаюцца простай большасьцю галасоў, пытаньне лічыцца нявырашаным.

§ 24.

Усе выбары на Агульным сходзе, як і пытаньні аб выключэньню сяброў з таварыства, прызначэньню ўзнагараджэньня, адсоўваньню чланаў Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, вырашаюць патаемным галасаваньнем.

У ўсіх іншых выпадках род галасаваньня вызначае Агульны сход.

§ 25.

Пратакол Агульнага Сходу запісываюць у асобны журнал і падпісывае старшыня, прысутныя члены Праўленьня і Рэвізыйнае камісіі і сэкрэтар Агульнага Сходу.

## Ж. Прауленьне.

Праўленьне рэпрэзэнтуе таварыства без асаблівага на гэта паўнамоцтва ўва ўсіх яго справах, абавязках і зносінах з установамі і староннімі асобамі. Абавязкі Праўленьня і яго асобных членаў, парадак іх працы і межы правоў прызначае інструкцыя, якая прынята і зацьверджана Агульным Сходам. Праўленьне знайходзіцца ў Рызе.

**Асаблівы абавязак Праўленьня ёсьць:**

а) заключаць ад імя таварыства рожнага роду ўмовы, набываць і адчужаць маёмасьць;

б) бараніць інтарэсы таварыства ў дзяржаўных, судовых і адміністратыўных установах;

в) абіраць прадстаўнікоў таварыства ў іншыя таварыства і грамадзкія арганізацыі;

г) атрымліваць і выдаваць грошы, захоўваць таварыству належачую і даверануют маёмасьць, каштоўныя рэчы і грошы;

д) складаць інструкцыі ўсім Аддзелам таварыства і прадстаўляць іх таварыству;

е) складаць прыбытковы і выдатковы буджэт, плян дзейнасьці, гадавую справаздачу і прадстаўляць іх разам з заключэньнем Рэвізыйнае камісіі на зацьверджаньне Агульнаму Сходу;

ж) весьці бухгальтэрыю і дзелаводства;

з) прыймаць новых сяброў;

і) весьці іншыя справы, датычныя да гэтага статуту і правіл канфэрэнцыі.

§ 28.

Праўленьне складаецца з 5 членаў, якіх абіраюць зачыненым галасаваньнем на Агульным Сходзе з ліку сяброў таварыства на адзін год. У Праўленьне могуць быць абраны толькі выключна Латвійскія грамадзяне. У тым самым парадку і на той самы час абіраюцца яшчэ 3 кандыдаты.

**Увага 1:** Агульны сход можа надаць права Праўленьню кааптаваць сяброў таварыства з правам вырашаючага голасу, пры чым лічба іх ня можа быць больш за лічбу членаў Праўленьня, а таксама і іншых асоб па пагляду Праўленьня з правам дарадчага голасу.

**Увага 2:** Кандыдаты выконываюць абавязкі тых членаў, якія выступілі да концу таго тэрміну, на які яны абраны, ці па прычыне хворасьці ці якога іншага здарэньня ня могуць быць прысутнымі на паседжаньнях Праўленьня, пры чым кандыдаты прыступаюць да выкананьня абавязкаў членаў пасьля атрыманьня большасьці галасоў у галасаваньні.

§ 29.

Члены Праўленьня штогодна, пасьля Агульнага Сходу, абіраюць з паміж сябе старшыню, які лічыцца таксама старшынёй таварыства, намесьніка старшыні, скарбніка і сэкрэтара.

§ 30.

Праўленьне зьбіраецца ня менш разу ў месяц. Аб часе паседжаньня Праўленьня вывешываецца абвестка ў памешканьні Праўленьня. Паседжаньні Праўленьня маюць

права пастаноў, калі ў іх прыймаюць удзел ня менш як 1/3 яго сяброў, у тым ліку старшыня, ці яго намесьнік. Пытаньні Праўленьня вырашаюцца простай большасьцю галасоў.

**Увага:** У паседжаньнях Праўленьня могуць прыймаць удзел і 2 члены таварыства з правам дарадчага голасу.

§ 31.

Пастановы Праўленьня ўпісываюцца ў пратакольную кнігу і падпісываюцца членамі. Паўнамоцтва, умовы і іншыя акты, таксама і паперы ў рожныя ўстановы з запросамі на грошы, падпісываюцца старшынёй таварыства ці яго намесьнікам і адным членам Праўленьня.

## 3. Рэвізыйная камісія.

§ 32.

Агульны Сход абірае Рэвізыйную камісію дзеля перагляду справаздач і касы, а таксама дзеля рэвізіроўкі спраў таварыства.

§ 33.

Рэвізыйная камісія складаецца найменш з 3 членаў і 2 кандыдатаў, якіх абірае Агульны Сход зачыненым галасаваньнем на адзін год з сяброў таварыства, якія не ўваходзяць у склад членаў Праўленьня і не займаюць іншыя пасады ў таварыстве.

**Увага 1:** Лічбу членаў Рэвізыйнае камісіі і яе кандыдатаў прызначае Агульны Сход.

**Увага 2:** У абіраньні Рэвізыйнае камісіі ня могуць прыймаць удзелу ні члены Праўленьня, ні асобы, прынятыя на службу таварыства.

§ 34.

Члены Рэвізыйнае камісі, пасьля свайго абраньня, выдзяляюць з паміж сабе старшыню, абавязак якога ёсьць склікаць паседжаньні камісіі і кіраваць імі. Паседжаньні рэвізыйнае камісіі правамоцны, калі ў іх прыймаюць удзел ня менш як 2/3 з усіх членаў. Аб паседжаньнях паведамляецца пісьменна за тры дні.

§ 35.

Спэцыяльны абавязак Рэвізыйнае Камісіі ёсьць:

а) Пэрыядычна праглядаць грашовыя сродкі таварыства і рожнага віда маёмасьць і зьлічаць іх з кнігамі і рахункамі;
б) прадстаўляць Агульнаму сходу заключэньне аб гадовай справаздачы і буджэту;
в) Рэвізыйную камісію склікае старшыня Рэвізыйнае камісіі, паведамляючы аб гэтым за тры дні абвесткаю.

## I. Ліквідацыя.

§ 36.

а) Таварыства ліквідуецца на падставе пастановы Агульнага Сходу;
б) калі лічба сяброў менш за 7;
в) у выпадку няздольнасьці плаціць;
г) на падставе адпаведнае пастановы суду.

§ 37.

Калі зьяўляюцца варункі, якія даюць повад падняць пытаньне аб ліквідацыі таварыства, Праўленьне не марудзячы склікае Агульны сход, які выносіць пастанову аб ліквідацыі таварыства, ці робіць захады дзеля ўнікненьня яе.

§ 38.

Ліквідацыю таварыства, на падставе § 37, робяць асабліва дзеля гэтага абраныя Агульным сходам ліквідатары ў лічбе ня менш за 3.

Пастанова Агульнага сходу аб ліквідацыі паведамляецца Вакружнаму Суду і друкуецца ў Дзяржаўным Весьніку.

§ 39.

Ліквідатары падлеглы агульным правілам аб членах Праўленьня.

§ 40.

Ліквідатары выклікаюць пазычальнікаў таварыства праз абвесткі і паведамленьні ў газэтах, прыймаюць змогі дзеля іх задаваленьня, распрадаюць маёмасьць таварыства, умаўляюцца і заключаюць умовы з трэцьцімі асобамі на грунце адзначаных на Агульным сходзе падстаў і ў прызначаных ім межах.

§ 41.

Пасьля залатвеньня ўсіх пазык таварыства, застаўшаяся маёмасьць выкарыстоўваецца на культурныя мэты згодна з пастановай Агульнага сходу.

§ 42.

Пасьля сканчэньня ліквідацыі, ліквідатары прадстаўляюць Агульнаму сходу ліквідацыйную справаздачу на зацьверджаньне. Пасьля зацьверджаньня справаздачы паведамляецца Вакружны Суд аб сканчэньні ліквідацыі і здаюцца яму на сховы справы, кнігі і дакумэнты таварыства.

**Статут гэты зацьверджаны Рыскім Акруговым Судом у верасьню месяцы 1925 году.**

# Нарада рэктароу вышэйшых навучальных устаноу Беларусі.

На гэтых днях у Менску пры Галоўпрафасьветы адбылася нарада рэктароў вышэйшых навучальных устаноў БССР.

Нарада абмяркоўвала наступныя пытаньні: плян правядзеньня нацыянальнай палітыкі ў ВНУ*) ў 1926-27 навучальным годзе, 2) падрыхтоўка навук. працоўнікоў ды іншыя пытаньні.

З дакладаў рэктароў установлена, што 45 прац. усіх дацэнтаў С. Г. Акадэміі. 92,1 прац. БДУ і 57,1 прац. Вэтэрынарнага Інстытуту ўладаюць беларускай мовай.

Нарада ўхваліла правесьці беларусізацыю ўсяго складу дацэнтаў у наступныя тэрміны: у С.-Г. Акадэміі да 1 кастрычніка 1927 году павінны перайсьці на белар. мову 80 прац. усяго складу; у БДУ і Вэтэрынарным Інстытуце да 15 верасьня 1927 г. — усе 100 прац. дацэнтаў. Усе асыстэнты ва-ўсіх ВНУ павінны перайсьці на выкладаньне дысцыплін на беларускай мове да 15 чэрвеня 1927 году; усе навуковыя супрацоўнікі, ардынатары і асьпіранты павінны перайсьці на беларускую мову да 15 лютага 1927 г.

Для студэнцтва таксама ўстаноўлены тэрміны пераходу на беларускую мову. У другім паўгодзьдзі ўсе залікі трэба здаваць пабеларуску (калі прафэсар уладае беларускай мовай). Усе пісьмовыя працы і даклады студэнты павінны рабіць на беларускай мове.

Усе студэнты, якія скончаць ВНУ ў 1927 г., павінны здаваць і абараняць свае дыплёмныя працы толькі пабеларуску.

У галіне падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў нарада пастанавіла ўвесьці ў ВНУ інстытут студэнтаў-практыкантаў, каб даць магчымасьць падабраць для навуковай дзейнасьці больш здольных студэнтаў. Тэрмін прабываньня у якасьці асьпіранта ўстаноўлен 2 гадовы. Найбольш працаздольных будуць пакідаць яшчэ на 1 год навуковых камандыровак.

Для падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў пры катэдрах, якіх у нас няма, студэнты будуць камандыравацца ў вышэйшыя навуковыя ўстановы іншых савецкіх рэспублік, а таксама і да унівэсытэтаў у вялікіх навуковых цэнтрах Эўропы.

*) ВНУ — скарочана Вышэйшыя Навуковыя Установы. (Увага Рэдакцыі).

# З беларускага культурнага жыцьця.



**Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску.**



**Менскі беларускі Дзяржаўны Тэатр.**
На фатаграфіі сцэна з 1-га акту пьесы гр. Дылы—„Панскі Гайдук“.

## Прыватная беларуская школа у Люцыншчыне.

У Люцынскім павеце ўжо некалькі год, як пад уплывамі ворагаў беларусаў, ідзе змаганьне з нашымі школамі. Ужо некалькі беларускіх школ зачынена, а на іх мейсцу, бо адчынены школы латыскія, або зусім ніякае школы няма.

У пачатку гэтага навучальнага году была зачынена беларуская школа ў вёсцы Шылава, Пасінскай воласьці, Люцынскага павету. Бацькі пасылалі хадакоў і ў Люцын да павятовай Школьнай Управы і, нават, у Рыгу да Міністэрства Асьветы, аднак школу не аднаўлялі. Тады паўстала думка аб адчыненьні ў Шылаве прыватнае беларускае школы. Бацькі згадзіліся ўтрымліваць за свой кошт памешканьне і даваць дапамогу вучыцелю, калі якая-колечы беларуская арганізацыя даб'ецца права на адчыненьў Шылаве прыватнае школы.

„Т-ва беларускіх вучыцелёў у Латвіі" зьвярнулася да Міністра Асьветы і ён даў згоду на адчыненьне ў Шылаве прыватнае беларускае школы. Па захадам Цэнтральнага Праўленьня таго-ж т-ва, вучыцелькай ў гэтую школу прызначана Беларускім Аддзелам Кацярына Зэйгліш.

### Зьбірайце грошы на падтрымку вучняў.

Праўленьне Дзьвінскага аддзелу „Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў", каб дапамагчы бедным вучням Дзьвінскае беларускае гімназіі, зрабіла 5-га сьнежаня ў Дзьвінскім мястовым клюбе баль-маскарад, прыбытак з якога дзякуючы добрай падрыхтоўцы, даў 10.000 рублёў. Гэткім чынам дадзена магчымасьць дзе-колькім вучням далей вучыцца ў гімназіі ў гэтым годзе.

Гэткі крок „Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў" можна толькі вітаць. Варта было-б, каб культурна-прасьветныя нашы т-вы зьвярнулі-бы належную ўвагу на падтрымку вучняў.

Здаецца ня трэба ўжо даводзіць, што нашая беларуская меншасьць у Латвіі — самая цёмная і неадукаваная, а гэта ўсё дзякуючы цяжкаму матар'яльнаму становішчу беларускага селянства і рабочых. Шмат хто хацеў-бы вучыць сваіх дзяцей ў сярэдняй школе, але ня можа, бо на гэта няма сродкаў, многія ня могуць пасылаць сваіх дзетак нават у пачатковую школу, ня глядзячы на тое, што навучаньне ў ёй бязграшовае і абавязковае; ня могуць вучыць таму, што няма чым апрануць дзяцей і пракарміць. Малы хлопчык 7—8 гадоў ужо ідзе пасьці быдла і працуе ён амаль цэлы год. Колькі часу застаецца гэтаму змучанаму дзіцяці вучыцца?

Дык вось, якое наша становішча! — Працуем больш усіх, а за сваю працу, за мазалі атрымовываем менш усіх.

Каб выйсьці з гэтага становішча, трэба нам і самім вучыцца і дзяцей вучыць, а для гэтага ўсяго трэба грошы, якіх у нас няма. Дзеля гэтага патрэбна, каб нашыя культурна-прасьветныя т-вы зьвярнулі асаблівую ўвагу на адшуканьне сродкаў на нашую асьвету, бо гэта іхняя справа.

У нас зараз тры культурна-асьветныя т-вы — „Беларуская Хата", „Прасьвета" і „Рунь". Калі кожнае т-ва хаця-ж-бы па 100.000 рублёў у год сабрала-б на гэтую справу, дык разам маглі-б яны дапамагчы ня толькі бедным вучням гімназіі, якім далі-б магчымасьць скончыць сярэднюю адукацыю, але значна дапамаглі-б і бяднэйшым вучням пачатковых школ.

**Дзяменскі.**

Рэдактар-выдавец **К. Езавітаў.**

Тыпаграфія Г. Ігe, Рыга, Гэртрудзінская вуліца, № 80.